©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016

Аляксей Ластоўскі

# Прапрацоўка камуністычнага мінулага ў Славакіі: асноўныя фактары і дынаміка[1]

Усходняй Еўропе вельмі цяжка развітацца з камунізмам. Да гэтага часу пануе ярлык "посткамунізму" як вызначальны для спецыфікі рэгіёна, як слова-ключ для разумення адметнасцей трансфармацыі розных краін, як цяжкае ярмо, што служыць апраўданнем для палітычнай залежнасці і эканамічнай адсталасці.

Калі мінулае ўспрымаецца як нешта негатыўнае, як цяжар і адхіленне ад "нармальнага" шляху, то перад элітамі і грамадствам непазбежна паўстае задача развітання са спадчынай і пераадолення негатыўнага досведу, выпраўлення ўласнай траекторыі развіцця. Але адарваць сучаснасць ад мінулага – заўжды вельмі складаная задача, нават у таталітарных дзяржавах, з агромністымі рэсурсамі маніпулявання свядомасцю і рэгламентаванай публічнай сферай.

Непазбежна паўстаюць праблемы інстытуцыйнай і легальнай пераемнасці, захавання эліт, люстрацыі, палітычнай і акадэмічнай інтэрпрэтацыі мінулага ў межах новых нацыянальных наратываў. Шматлікасць праблемных пытанняў нараджае разнастайнасць варыянтаў палітычнага дзеяння, і развітваюцца з камунізмам па-рознаму, у розных модусах і інтанацыях. Нямецкі гісторык Штэфан Тробст паспрабаваў аналітычна размясціць усходнееўрапейскія нацыянальныя культуры памяці на шкале з чатырох тыпаў: 1) грамадствы, дзе пануе кансенсус датычна таго, што камунізм ім навязаны звонку і з'яўляецца "чужым"; 2) грамадствы, дзе падобнага базавага кансенсусу не існуе і ідуць палітычныя спрэчкі вакол інтэрпрэтацыі сацыялістычнага мінулага; 3) краіны, дзе пануе супярэчлівае і разам з тым досыць апатычнае стаўленне да мінулага, дзе за камунізмам прызнаюцца заслугі ў мадэрнізацыі, але ў цэлым ён успрымаецца як знешняя ініцыятыва; 4) нарэшце, чацвёрты тып культуры памяці, характэрны для краін, дзе захоўваецца пераемнасць новых і камуністычных эліт, то бок назіраецца кантынуітэт аўтарытарных структур. Класіфікацыя, натуральна, умоўная,

[1] Большая частка артыкула была падрыхтаваная ў межах стажыроўкі пры Інстытуце палітычных навук Славацкай акадэміі навук з лістапада 2011 па ліпень 2012 года (Нацыянальная стыпендыяльная праграма Славацкай Рэспублікі). Таксама выказваю шчырую падзяку Юраю Маруш'яку і Аляксею Кажарскаму за каштоўныя парады і разнастайную дапамогу ў рамках гэтай стажыроўкі.

але нас цікавіць тое, што, па меркаванні Тробста, Славакія і Беларусь размешчаны на розных полюсах шкалы: для Славакіі камунізм – чужы (“чэшскі”), для Беларусі – свой і мілы (Трёбст, 2004: 51–55).

На першы погляд тут нічога дзіўнага, бо мы, беларусы, прызвычаіліся адчуваць сябе “апошняй дыктатурай у Еўропе”, ізаляванай ад агульнаеўрапейскіх працэсаў, краінай, якая зацята выбудоўвае ўласны спецыфічны шлях развіцця. Але можна згадаць, што балгарскі палітолаг Іван Красцеў для палітычнай характарыстыкі Славакіі сярэдзіны 1990-х ужыў аналогію *“Беларусь, у якой любяць піва (beer-loving Belarus)”* (Krastev, 2006). Мелася пры гэтым на ўвазе тое, што на палітычнай сцэне Славакіі ішла найбольш упартая барацьба за ўладу паміж папулісцкімі і нацыяналістычнымі сіламі. Гэта нагадвала яму (і можа не толькі яму?) тое, што адбываецца ў Беларусі. То бок размяшчэнне дзвюх краін на розных полюсах вымушае ўсё ж задумацца ды прыгледзецца да славацкай траекторыі развітання з камуністычным мінулым.

У дадзеным артыкуле я паспрабую разабраць славацкі выпадак прапрацоўкі камуністычнага мінулага як выпадак, аналіз якога мусіць быць цікавым і для глыбейшага разумення беларускай сітуацыі. Першаснай задачай становіцца вылучэнне асноўных фактараў, якія абумовілі славацкую траекторыю развітання з камунізмам. Таксама цікавасць уяўляе праверка класіфікацыйнага рашэння Штэфана Тробста, ці сапраўды славакі паспяхова адмежаваліся ад камуністычнай спадчыны.

## I. Досвед камунізму ў Славакіі

У апошняе дзесяцігоддзе з’яўляецца мноства публікацый датычна развітання з непажаданым мінулым (не толькі камуністычным) і ажыццяўлення палітыкі transitional justice (палітыка люстрацый і судовага пераследу ў дачыненні да прадстаўнікоў папярэдняга палітычнага рэжыму). Але прынцыповае значэнне для многіх тэарэтычных пабудоваў мае ўплывовая праца Сэмюэла Гантынгтана “Трэццяя хваля”. У даследаванні трэццяй хвалі дэмакратызацыі (1974–1990) амерыканскі даследчык таксама закранае пытанне, чаму лідары новых дзяржаў па-рознаму рэагуюць на злачынствы ці парушэнні папярэдніх рэжымаў.

Абапіраючыся на гэту працу, большасць аўтараў канцэнтруецца ў аналізе пераходнай палітыкі на трох найважнейшых фактарах: характар старога рэжыму,[2] спецыфіка перадачы ўлады (transition) і структура новай палітычнай эліты. Гэтыя фактары вылучаюцца і ў публікацыях, прысвечаных славацкай палітыцы памяці (Nedelsky, 2004; Nedelsky, 2009; Kovanic, 2012). Гэта аргументацыя сапраўды важкая, хоць тут не хапае дадатковага істотнага элементу: уплываў міжнароднага атачэння – ад дысцыплінуючых уплываў разнастайных міжнародных ар-

2 *“Галоўнае абмежаванне як для пераследу, так і раскрыцця ў былых камуністычных краінах была ўсеабдымнасць камуністычнага рэжыму, ступень, да якой людзі яго прымалі і з ім супрацоўнічалі, і страх наступстваў пераследу ды расследаванняў”* (Хантингтон, 2003: 249).

ганізацый да трансфераў ідэй і практык з боку найбліжэйшых суседзяў. Падаецца, што дапоўненую такім чынам схему можна перанесці і на беларускі выпадак, але ў дадзеным артыкуле я падрабязна спынюся, як яна працуе ў славацкім кантэксце.

Найбольш дыскусійны з пералічаных фактараў – характар камуністычнага рэжыму ў Славакіі, паколькі сам па сабе гэта ўжо дыскурсіўны феномен, які выбудоўваецца па-рознаму ў залежнасці ад палітычных арыентацый і метадалагічных арыенціраў прамоўцаў і зацікаўленых актараў. Сітуацыя ўскладняецца тым, што "сутнасць" камунізму ўжо нарматыўна ўведзена ў славацкае заканадаўства. Так, яшчэ ў лістападзе 1991 года Федэральны Сход Чэшскай і Славацкай Федэратыўнай Рэспублікі прыняў закон пра "эпоху несвабоды". Першае палажэнне гэтага закону канстатавала, што ў 1948–1989 гадах камуністычны рэжым парушаў правы чалавека і свае ўласныя законы (Dinuš, 2010: 19). Нацыянальная Рада Славацкай Рэспублікі паводле чэшскага ўзору (закон Чэшскай Рэспублікі 1993 года "Пра незаконнасць камуністычнага рэжыму і супраціў яму") прыняла ў сакавіку 1996 года закон "Пра амаральнасць і незаконнасць камуністычнай сістэмы". Закон пераймае рыторыку чэшскага закона, але ў некаторых пасажах памяркоўна яе карэктуе. Памер і абсяг рэпрэсій пашыраецца на *"мэтанакіраванае знішчэнне нацыянальных і рэлігійных правоў"* і *"разбурэнне гаспадаркі"* (Dinuš, 2010: 19). Як адзначае Кармен Гансалес-Энрыкес, гэта было *"своеасаблівае рашэнне, паколькі 92 з 110 дэпутатаў, што галасавалі за закон, раней былі чальцамі Камуністычнай партыі Чэхаславакіі"*. Можа, і таму прыняцце закону не мела *"аніякага значнага эфекту"* (Gonzalez-Enriquez: 2010: 228).

Відавочна, што такое адлюстраванне камуністычнага перыяду ў значнай ступені звязана з усталяваннем легітымнасці новай дэмакратычнай дзяржавы, што патрабуе адмаўлення ад камуністычнага мінулага, калі камунізм выяўляецца *"як гістарычнае скажэнне, інтэрлюдыя, адхіленне ад уяўнага натуральнага шляху нацыянальнай гісторыі, «азіяцкі дэспатызм», імпартаваны з «Усходу»"* (Kopeček, 2008: 77).

Гэта вядзе да фармавання афіцыйнага гістарычнага наратыву датычна славацкага мінулага, які базуецца на таталітарнай парадыгме з акцэнтам на рэпрэсіўны характар улады і дэфармацыйны характар развіцця грамадства. Такі спосаб апісання камуністычнага мінулага пануе ў найбольш рэпрэзентацыйных абагуленых наратывах: "Гісторыя Славакіі" Душана Ковача[3] (Kováč, 2010) і "Славакія ў гісторыі", калектыўнай працы, якая выйшла ў выдавецтве Кембрыджскага ўніверсітэта[4] (Teich et al., 2011). Пры

[3] Душан Ковач лічыцца і адным з найбольш аўтарытэтных славацкіх гісторыкаў, ён з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Славацкай акадэміі навук і прэзідэнтам Славацкага нацыянальнага камітэта гісторыкаў. Таксама гэта адзіны абагулены наратыў гісторыі Славакіі, напісаны славацкім аўтарам у посткамуністычны час, што робіць гэты тэкст яшчэ больш важным для аналізу.

[4] Адным з трох рэдактараў гэтай кнігі таксама з'яўляецца Душан Ковач, хоць раздзелы пра камуністычны і посткамуністычны перыяды напісаны іншымі аўтарамі.

апісанні эканамічнага развіцця Славакіі згадкі пра мадэрнізацыю заўжды суправаджаюцца сцверджаннямі пра яе высокія кошты, дэфармаваны характар і адставанне ад мадэрнізацыйных працэсаў у высокаразвітых еўрапейскіх краінах (Kováč, 2009: 271; Londak and Londakova, 2011: 330). У культурнай сферы таталітарны рэжым навязаў культуры ідэалагічную ролю, надаў прапагандысцкую місію будаўніцтва новага камуністычнага грамадства. Афіцыйная форма культуры была жорстка рэгламентаваная адзіным правільным канонам сацыялістычнага рэалізму (Kováč, 2009: 271–277; Londak and Londakova, 2011: 337). Перыяд "нармалізацыі" (1968–1989) апісваецца як час палітычных рэпрэсій, поўнай знешнепалітычнай залежнасці ад Масквы, эканамічнай і тэхналагічнай стагнацыі (Kovac, 2009: 296–304; Londak and Londakova, 2011: 346–350).

Зноў жа, узгадаўшы класіфікацыйны крытэр Тробста пра кансенсус у грамадстве, трэба адзначыць, што ў акадэмічнай супольнасці існуе значна больш шырокі спектр меркаванняў датычна ўздзеяння камунізму на славацкае грамадства.

Хоць найперш варта сказаць пра вонкавую пазіцыю. Большасць заходніх аўтараў не падтрымлівае "таталітарную" мадэль апісання, дэманструючы як шматлікія пазітыўныя аспекты камуністычнай мадэрнізацыі і сацыялістычнай індустрыялізацыі (Musil, 1995), так і масавую падтрымку рэжыму з боку чэхаў і славакаў: *"Пасля вайны чэхі і славакі прадэманстравалі яскравае захапленне Савецкім Саюзам і камуністычнай палітычнай сістэмай, таму цяжка пагадзіцца з тым, што камунізм тут быў навязаны дзяржаве, як тое было ў выпадку большасці суседніх краін"* (Cashman, 2008: 1655). Досыць часта падкрэсліваецца, што "нармалізацыя" ў Славакіі была не такой жорсткай (heavy-handed), як на чэшскамоўных землях. Гэта знайшло адлюстраванне ў значна меншай ступені чыстак сярод чальцоў камуністычнай партыі Славакіі, у параўнанні з чэшскай кампартыяй (Williams, 2006: 108; Harris, 2002: 82).

Многія славацкія вучоныя таксама імкнуцца адыйсці ад рэпрэсіўна-таталітарнай парадыгмы. Напрыклад, Уладзімір Крывы наступным чынам спрабуе патлумачыць складанасць сітуацыі: *"Калі не лічыць тых, хто непасрэдна пацярпеў як вораг рэжыму, матэрыяльныя ўмовы пераважнай большасці насельніцтва значна палепшыліся. Гэтая дыяхранічная сітуацыя росту дабрабыту пры палітычнай несвабодзе і сёння расколвае грамадства адносна ацэнак Славакіі за камуністамі. Калі неўзабаве пасля акупацыі ў 1968 г. у Чэхаславакіі ўсталяваўся камуністычны рэжым, які займаўся «нармалізацыяй» грамадства праз кадравыя чысткі, у Славакіі гэты працэс быў больш мяккі, паколькі тут для ўлады была характэрная «кланавасць», а насельніцтва прызвычаілася адаптавацца да любых сацыяльна-палітычных змен. З гэтага ў Славакіі пераслед за паводзіны ў 1968 г. быў менш жорсткі, чым у чэшскай частцы дзяржавы, і тут больш паспяхова ўкараняліся розныя індывідуальныя і сямейныя стратэгіі «выжывання».*

*Дысідэнтаў, якія стаялі б у адкрытай апазіцыі да ўлады, у Славакіі амаль не было, выслізнулі з-пад улады рэжыму хіба адно падпольныя каталіцкія структуры"* (Крывы, 2006: 84).

Важным момантам, які сведчыць пра досыць вялікую ступень гарманічнасці камуністычнай улады і насельніцтва, з'яўляецца слабасць дысідэнцкага руху. З 239 першапачатковых падпісантаў Хартыі-77, толькі 8 паходзіла са Славакіі, і яшчэ некалькі далучыліся да яе пазней. Напрыканцы 1970-х каля 95% рэпрэсій урада супраць дысідэнтаў адбываліся на чэшскіх землях, і больш за палову невялікага адсотка рэпрэсій, якія адбываліся ў Славакіі, былі скіраваны супраць двух дысідэнтаў. Да канца 1980-х доля антыдысідэнцкіх рэпрэсій у Славакіі паступова ўзрасла да 13% ад агульнага ў Чэхаславакіі, але гэта ўсё роўна значна менш, чым доля насельніцтва Славакіі ў федэратыўнай дзяржаве – каля траціны ў 1991 годзе (Nedelsky, 2004: 83–84). Застаецца згадаць словы аднаго з нешматлікіх славацкіх дысідэнтаў Марціна Шымечкі, што для славацкага грамадства ў часы камунізму былі характэрныя *"амаль абсалютная паслухмянасць насельніцтва тагачаснаму рэжыму, амаль ніякіх знакаў супраціву, калі не лічыць пасіўнай зацятасці каталіцкага андэграўнду"* (Шымэчка, 2010: 98).

Яшчэ больш неадназначным выглядае вобраз мінулага ў масавай свядомасці славакаў. Так, Зору Бутураву непакоіць, наколькі спагадліва славакамі згадваюцца эканамічныя дасягненні эпохі сацыялізму, тады як неабходнасць прынцыповых эканамічных змен слаба ўсведамляецца: *"У даследаванні Інстытута грамадскіх пытанняў (ІГП) у красавіку 2006 г., г. зн. праз 17 гадоў пасля падзення камунізму і 14 гадоў ад пачатку эканамічнай рэформы, толькі 37% рэспандэнтаў дапускалі, што сацыялістычная эканоміка вымагала радыкальнай трансфармацыі. Наадварот, 42% захавалі ілюзію, што хапіла б толькі касметычнага рамонту, а 10% нават ставілі пад сумнеў неабходнасць якіх бы там ні было змен"* (Бутурава, 2006: 231). Паводле яе ацэнак, для славакаў характэрна апатычнае стаўленне да камуністычнага рэжыму: *"Толькі няпоўная палова рэспандэнтаў (49%) пагаджалася, што камуністычны рэжым здзяйсняў злачынствы і вінаватыя мусяць быць пакараныя, 40%, хутчэй, былі за «тлустую рысу», а 11% не мелі на гэты конт пэўнага меркавання. Тое апытанне таксама паказала, што сярод рэспандэнтаў толькі 33% заставаліся прыхільнікамі захавання гістарычнай памяці пра змрочныя старонкі камуністычнага перыяду, 35%, наадварот, лічылі, што пра заганы камуністычнай мінуўшчыны залішне шмат гаворыцца, а рэшта – 32% – не мелі пэўнага меркавання. Гэтыя даследаванні сведчаць, што схільнасць да крытычнай гістарычнай самарэфлексіі не ёсць моцнай патрэбай славакаў"* (Бутурава, 2006: 232).

Такім чынам, падтрымка славацкім грамадствам дэмакратычных каштоўнасцей амаль не звязваецца з актыўным непрыняццем камуністычнага аўтарытарызму, што, па

меркаванні Батуравай, вынікае перадусім з запозненай сацыялістычнай мадэрнізацыі, а таксама са спецыфічнага, адносна мяккага варыянта палітычнай нармалізацыі пасля акупацыі ЧССР войскамі Варшаўскай дамовы ў 1968 годзе. На дапамогу захаванню настальгічных настрояў па суцэльнай працаўладкаванасці і стабільнасці жыцця прыходзяць і актуальныя эканамічныя цяжкасці: *"немалая частка славакаў (на гэты момант, каля 40%) бачыць у сённяшнім рэжыме больш заганаў, чым у папярэднім. Доля прыхільнікаў сучаснага рэжыму ўжо доўгі час вагаецца ніжэй за адзнаку «дзве пятыя» і, як правіла, не дасягае колькасці прыхільнікаў былога рэжыму"* (Бутурава, 2006: 229).

Варта таксама згадаць вынікі даследавання "Некаторыя пытанні гістарычнай свядомасці грамадзян Славацкай Рэспублікі", здзейсненага Інстытутам палітычных навук Славацкай акадэміі навук у 2003–2005 гады. Найбольшую цікавасць уяўляюць ацэнкі розных гістарычных перыядаў Славакіі ў XX стагоддзі паводле развіцця асобных сфер (ад нацыянальнай ідэнтычнасці да эканомікі). Паводле гэтых ацэнак, менавіта перыяд "нармалізацыі" (1968–1989) уяўляецца "страчаным выраем" эканамічнага і сацыяльнага дабрабыту: менавіта тады былі найвышэйшыя паказчыкі развіцця народнай гаспадаркі, сацыяльнага становішча большасці грамадзян, жыцця простых людзей, стану адукацыі і культуры. Нават па такіх параметрах, як палітычная культура і мараль, познекамуністычны перыяд саступае толькі Першай Чэхаславацкай Рэспубліцы (1918–1939). Цалкам прадказальна, што найгорш па ўсіх гэтых аспектах ацэньвалася сучаснасць пасля 1999 года (Peknik, 2006: 100). Відавочна, што такая моцная незадаволенасць сваім сацыяльным становішчам у славацкім грамадстве спрыяе пашырэнню настальгічных настрояў па камуністычных часах і таксама мае ўплыў на палітычнае поле.

## II. Дэмакратычны транзіт

Другі важны фактар для ацэнкі мінулага – гэта сам характар транзіту. Гантынгтан лічыць, што на самай справе выбар варыянтаў, як працаваць са спадчынай дыктатуры (пераследаваць і караць ці дараваць і забыць), *"мала залежыць ад маральных і легальных аргументаў. Выбар практычна заўжды вызначаецца палітыкай, прыродай працэсу дэмакратызацыі, размеркаваннем палітычнай улады падчас і пасля транзіту"* (Хантингтон, 2002: 233).

Пераход улады ад камуністычнай эліты да дэмакратычнай у Чэхаславакіі адбываўся мірным шляхам, фактычна праз авалодванне палітычнай апазіцыяй хвалі масавых пратэстаў, пры адначасовай няздольнасці (ці нежаданні) камуністычнай улады падаўляць гэтыя пратэсты. Падзеі разгортваліся імкліва: масавыя дэманстрацыі ў лістападзе 1989 года, стварэнне часовага Ураду нацыянальнага паразумення ў снежні 1989 года, выбары Вацлава Гавела прэзідэнтам Чэхаславакіі 29 снежня гэтага ж года, паслядоўныя канстытуцыйныя змены і першыя вольныя парламенцкія выбары ў чэрвені 1990 года. Імклівасць

змены ўлады адлюстроўваецца і праз нададзеныя характарыстыкі: *"выбух старога парадку (implosion of the old order)"* (Kitschelt et al., 1999) ці *"калапс рэжыму (regime collapse)"* (Linz and Stepan, 1996: 316).

Фактычна змена ўлады адбылася ў выніку кансенсусу паміж двума памяркоўнымі крыламі апазіцыі і камуністаў. Гэта ў значнай ступені абумовіла спробы знайсці паразуменне. Так, лідар апазіцыйнага Грамадзянскага форуму Вацлаў Гавел падкрэсліваў, што камуністы мусяць быць уключанымі ў новае грамадства як роўныя партнёры. *"Камуністычная партыя гарантавала таталітарную сістэму, і таму ўсе камуністы без выключэння нясуць падвышаную адказнасць за той маразм, у які патрапіла наша краіна. Гэта абавязвае іх,* – працягваў ён, – *сёння працаваць больш за іншых для вольнай будучыні ўсіх нас"* (цытуецца паводле Krapfl, 2006: 180). Пасля абрання Гавела прэзідэнтам Чэхаславакіі камюніке Грамадзянскага форуму ўхваляла гатоўнасць камуністаў удзельнічаць у *"далейшым развіцці дэмакратыі, гуманнасці і ўзаемапаразумення"* (Krapfl, 2006: 181). Своеасаблівым вянцом кампраміснага характару "аксамітнай рэвалюцыі", вынікам паразумення паміж галоўнымі апазіцыйнымі сіламі – Грамадзянскі форум (Občanské fórum) у Чэхіі і Грамадства супраць гвалту (Verejnosť proti násiliu, VPN) у Славакіі з аднаго боку і кампартыяй з іншага – стаў закон пра палітычныя партыі ад 23 студзеня 1990 года, які прызнаў камуністычную партыю без усялякіх абмежаванняў.

Але Жак Рупнік падкрэслівае, што чэшскі выпадак адзначаны больш раптоўнай зменай рэжыму, чым вынікам перамоваў. *"У рэтраспектыве падаецца, што прадстаўнікі рэжыму, якія хутка згубілі пазіцыі, не былі ў стане абумовіць свой імунітэт ад пераследу. Гаворка ідзе хутчэй пра самаабмежаванне лідараў Грамадзянскага форуму, якія вялі перамовы з камуністычнымі лідарамі ў канцы лістапада і снежні 1989 года, што прывяло да мяккай, "аксамітнай" змены ўлады. Камуністы здолелі прайсці гэту фазу без асаблівай шкоды, але ў адрозненне ад Польшчы ці Венгрыі, яны не маглі прэтэндаваць нават на сціплае спрычыненне да дэмакратычных зменаў"* (Rupnik, 2002).

Ужо на гэтай стадыі выяўляюцца прынцыповыя адрозненні паміж чэшскім і славацкім транзітам. Увосень 1989 года вымалёўваецца значна больш памяркоўная лінія славацкіх дэмакратаў у працэсе дэкамунізацыі грамадства. У Чэхаславакіі ў гэты час разгортваецца спантанная дэмакратызацыя – канец "вядучай ролі" партыі азначаў, што камуністы павінны перастаць дамінаваць у кіраўнічых структурах, не толькі на ўзроўні федэральнага і рэспубліканскага ўрадаў, але і на ўзроўні школаў, працоўных месцаў і мясцовай адміністрацыі. Найбольш праблем узнікла на працоўных месцах, і Мілан Княжка (Milan Kňažko), адзін з лідараў славацкага руху VPN, выступае з заклікам "спыніць кадравую вайну", што знайшло падтрымку з боку гэтай арганізацыі (Krapfl, 2006: 182).

У выніку слабасці славацкіх дысідэнцкіх контрэлітаў *"яшчэ ў 1990 г.*

*давялося заключыць хаўрус з арыентаванай на рэформы часткай камуністычнага істэблішменту. Гэта, у сваю чаргу, знемагчыміла артыкуляцыю выразнай праграмы развітання з камуністычным мінулым"* (Маруш'як, 2010: 457).

Разам з тым менавіта чэшскі бок стаў ініцыятарам далейшага прасоўвання на шляху развітання з мінулым. З забеспячэннем пераходу ўлады, палітыка мінулага стала адным з прыярытэтаў новага кіраўніка дзяржавы Вацлава Гавела. Паводле яго маралізатарскай рыторыкі, гаворка вялася пра сімвалічнае выкупленне нацыянальных катастроф, што мусіла пазбавіць грамадзян ад страху вяртання Зла. У адпаведнасці з такой лініяй разгортваецца масавая змена сімвалаў, іконаў і імёнаў, звязаных з камуністычным мінулым (Suk, 2001: 139). Працэс размежавання з перадлістападаўскім рэжымам адбываўся хутка, адной з галоўных прыкметаў стала змена назвы дзяржавы на Чэхаславацкую Рэспубліку (выдалены прыметнік "сацыялістычная").

Важным крокам юрыдычнага афармлення разрыву з камуністычным рэжымам у Чэхаславакіі стала заканадаўчае вырашэнне пытання палітычнай рэабілітацыі (красавік 1990 года), прынцыповую ролю ў якім адыграла Канфедэрацыя палітычных вязняў (Konfederace politických vězňů). Гэтым законам страчвалі сілу заканадаўчыя акты, на падставе якіх па палітычных прычынах было арыштавана з 1948 года некалькі дзясяткаў тысячаў асобаў. Ім вяртаўся паўнапраўны грамадзянскі статус і прадугледжвалася матэрыяльная кампенсацыя.

Падчас першых вольных выбараў улетку 1990 года Грамадзянскі форум разгарнуў кампанію выхаваўчых акцый, пабудаваных на ўспамінах пра рэпрэсіі з празрыстымі мэтамі прывесці насельніцтва на першых выбарах да аднагалоснага адмаўлення камунізму. Як піша Франсуаза Майер, *"цэнтр Прагі пераўтварыўся ў падручнік па найноўшай гісторыі, з ілюстрацыямі працэсаў з 1950-х гадоў",* згадванне найчарнейшых старонак камуністычнай улады мусіла завяршыць дыскрэдытацыю рэжыму (Mayer, 2009: 61). Але разам з тым камуністы заставаліся палітычнымі партнёрамі.

Адначасова ствараецца ўстойлівае крыло радыкалаў, пераважна з незадаволеных чальцоў Грамадзянскага форуму і новых скрайне правых палітычных груповак, якія пачынаюць настойліва крытыкаваць палітыку "канстытуцыйнага кансенсусу" і патрабаваць належнага ачышчэння палітыкі. *"Хваля антыкамуністычнай рыторыкі і сімвалізму робіцца настолькі моцнай, што ёй ужо немагчыма супраціўляцца. Напрыканцы 1990 года падавалася, што ціск дэкамунізацыі становіцца палітычным прыярытэтам і трансфармуецца ў серыю сімвалічных, канстытуцыйных і юрыдычных актаў"* (Suk, 2010: 38).

Галоўнай лініяй для распаду палітычнага кампрамісу становіцца праблема дазволу на палітычную дзейнасць камуністычнай партыі. У час "аксамітнай рэвалюцыі" існавала своеасаблівае табу на заклікі да забароны камуністычнай партыі, Грамадзянскі форум ўпарта прытрымліваўся гэтай тактыкі. Імкнучыся лавіраваць паміж кансенсусам і радыкалізацыяй, Вацлаў

Гавел уводзіць прынцып калектыўнай віны: паколькі немагчыма было забараніць камуністычную партыю, то паўстае ідэя ачышчэння ўладных шэрагаў – люстрацыі. Менавіта дыскусіі пра легальнасць і легітымнасць камуністычнай партыі адыгралі рашучую ролю ў фармуляванні закона пра люстрацыю (Пржыбань, 2012: 127). Люстрацыя мусіла стаць ключавым механізмам перахода да "паспяховага дэмакратычнага грамадства", яна засноўвалася на ідэі "маральнага трыбуналу" над камунізмам.

Закон пра люстрацыі быў ухвалены парламентам Чэхаславакіі пасля вострых дыскусій. Што істотна, прыняцце закону пра люстрацыі падзяліла славацкіх і чэшскіх дэпутатаў, паколькі славакі не падтрымлівалі інстытуцыялізацыю люстрацыйных мерапрыемстваў (Mayer, 2009: 75). У парламенцкім супрацьстаянні можна бачыць прадвесце будучага падзелу Чэхаславакіі: усе дэпутаты правацэнтрысцкай Грамадзянска-дэмакратычнай партыі, кіраванай Вацлавам Клаўсам (Václav Klaus), прагаласавалі за закон, тады як усе дэпутаты папулісцкага Руху за дэмакратычную Славакію, узначаленага Уладзімірам Мэч'ярам (Vladimír Mečiar), галасавалі супраць (Nedelsky, 2004: 71). Менавіта сутыкненне інтарэсаў паміж Клаўсам і Мэч'ярам, калі яны зоймуць пасты прэм'ер-міністраў Чэхіі і Славакіі, і стане нагодай для падзелу краіны на дзве рэспублікі.

На практыцы закон пра люстрацыю дазваляў ідэнтыфікаваць два тыпы "дыскрэдытаваных" асоб: тых, хто ўваходзіў у камуністычныя інстытуты альбо займаў кіроўныя функцыі ў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі, а таксама тых, хто супрацоўнічаў са службай дзяржаўнай бяспекі. *"Адным з найбольш парадаксальных наступстваў закону было тое, што нечакана мэта стыгматызацыі перасунулася з «камуністаў» на «агентаў»"* (Mayer, 2009: 64).

Люстрацыя праводзілася ў вельмі хуткім тэмпе, з абмежаваным доступам да архіваў і максімальна спрошчанай працэдурай разгляду справаў. Дастаткова было наяўнасці імя у рэгістрах спецслужбаў без высвятлення характару супрацы. Як лічыць Іржы Сук, *"люстрацыі пачаліся як кабінетныя маніпуляцыі, потым сталі прадметам публічных спекуляцый, яны падзялілі грамадскасць і атруцілі палітыку".* З аднаго боку, закон пра люстрацыю перашкодзіў супрацоўнікам службы бяспекі заняць ключавыя пасады ў дзяржаўных органах. Але закон не змог засцерагчы ад пранікнення "старых структур" з дапамогай больш рафінаваных сродкаў, найперш праз працэсы прыватызацыі і эканамічныя ўплывы (Suk, 2001: 171).

Разам з тым новая славацкая палітычная эліта неахвотна аднеслася да рэалізацыі закону і паддавалася ў гэтым дачыненні ціску з Прагі (Suk, 2001: 152). Першыя спробы люстрацыі (яшчэ да прыняцця адпаведнага закону) у Славакіі таксама праводзіліся ўслед за чэшскімі ініцыятывамі, але былі значна менш эфектыўнымі. Напярэдадні мясцовых выбараў 1990 года некаторыя партыі заклікалі сваіх кандыдатаў прайсці працэдуру праверкі, але камісія, створаная для гэтых мэтаў, так і не змагла спраца-

ваць з-за абмежаванняў доступу да дакументаў. У лютым 1991 года Славацкі нацыянальны савет паспрабаваў стварыць камісію на рэспубліканскім узроўні, была выдадзеная рэзалюцыя з заклікамі праверкі біяграфій дэпутатаў і вышэйшых чыноўнікаў, але далейшыя крокі былі вельмі сціплымі. Як вынік, федэральны люстрацыйны закон меў толькі фармальны эфект у Славакіі і не прывёў да разгортвання чыстак у вышэйшых шэрагах улады (як тое адбылося ў Чэхіі). Пасля сканчэння тэрміну дзеяння ў 1996 годзе, закон пра люстрацыю ў Славакіі не быў працягнуты (у Чэхіі ён быў працягнуты і дзейнічае да гэтага часу). На думку Надзі Недзельскі, *"хоць прыняцце закону пра люстрацыю ў 1991 годзе было «чэхаславацкім» рашэннем, сама люстрацыя была пераважна чэшскім памкненнем"* (Nedelsky, 2004: 76–77).

Чарговым крокам праўнага ўпарадкавання развітання з камунізмам у Чэхаславакіі стала прыняцце згаданага вышэй закона пра "эпоху несвабоды" ў снежні 1991 года. Паводле меркавання Франсуазы Майер, гэты закон не ўтрымліваў яснага размежавання з былым рэжымам. Закладалася, што камуністычны рэжым 1948–1989 гадоў парушаў чалавечыя правы, але разам з тым нагадвалася, што ўхваленыя ў тыя часы законы застаюцца дзейнымі, пакуль не будуць прынятыя іншыя нарматыўныя акты (Mayer, 2009: 67–68).

Тое, што прынятыя пастановы пра рэабілітацыю ахвяр і пра ачышчэнне публічнай сцэны абышліся без судовых рашэнняў, на думку французскай даследчыцы, сведчыць хутчэй пра імкненне забыць, "правесці тлустую рысу" з дапамогай поўнага асуджэння рэжыму, чым пра сапраўдную патрэбу асудзіць былы рэжым і пераследаваць адказных выканаўцаў (Mayer, 2009: 74).

Тым не менш, пры параўнанні мэтаў і дзейнасці новых чэшскіх і славацкіх палітычных эліт бачна рознае стаўленне да працэсу дэкамунізацыі. Падаецца, што больш істотным для палярызацыі палітыкі памяці сталі не адметнасці перадачы ўлады ад камуністаў да дэмакратаў, колькі тое, што посткамуністычны транзіт Чэхаславакіі адзначаны імклівым нарастаннем супярэчнасцей паміж чэшскімі і славацкімі элітамі. Хоць галоўныя разыходжанні датычылі пытанняў федэралізацыі і эканамічных рэформаў, спрэчкі датычна люстрацый і ступені дэкамунізацыі таксама былі скарыстаныя ў якасці сімвалічнага капіталу для афармлення розных пазіцый двух бакоў. Аспрэчванне жорсткай лініі дэкамунізацыі, якую праводзіў чэшскі бок, для славацкіх палітыкаў стала моцным палітычным інструментам дэцэнтралізацыі федэральнай палітыкі.

## III. Новая палітычная эліта Славакіі

Наступны фактар, які мае істотны ўплыў на развітанне з мінулым, – гэта структура новай палітычнай эліты. Раней ужо адзначалася, што яшчэ ў 1990 годзе ў Славакіі быў дасягнуты палітычны кампраміс паміж дэмакратычнымі рэфарматарамі і камуністамі, што ў значнай ступені паспрыяла захаванню былых каму-

ністаў у новых палітычных элітах (і, натуральна, стала значнай перашкодай для разгортвання люстрацыі).

Калі казаць пра палітычную сістэму посткамуністычнай Славакіі, то можна вылучыць некалькі галоўных рысаў:

1) адсутнасць кансалідаванасці палітычнай эліты, моцнае раздрабненне і палярызацыя палітычных асяродкаў;

2) слабая праяўленасць ідэалагічных пазіцый, галоўныя чыннікі размежавання палітычных партый звязаны хутчэй з персаналісцкімі сувязямі, *"партыі распадаюцца і рэфармуюцца згодна з асабістымі амбіцыямі і персанальнымі кантактамі паміж палітыкамі, і мала ўвагі надаецца даступным канстантам электаральнай падтрымкі, заснаваным на аб'ектыўных інтарэсах"* (Henderson, 2003: 71);

3) моцная тэндэнцыя папулізму, які застаецца ледзь не галоўным інструментам электаральнага поспеху (Deeegan-Krause and Haughton, 2009).

Адметнасцю Славакіі ад краін-суседак стала і хуткае растварэнне былых камуністаў у разнастайных палітычных сілах. *"У адрозненне ад астатніх краін Вышаградскай чацвёркі, у Славакіі ў 1989 г. немагчыма было гаварыць пра некамуністычную контрэліту, якая здольная была б замяніць эліту камуністычную. Таму апошняя змагла дастаткова хутка ўсталявацца і ў новай посткамуністычнай рэчаіснасці. Частка яе стварыла посткамуністычную Партыю дэмакратычнай левіцы (ПДЛ), якая ідэнтыфікавала сябе (прынамсі, звонку) з каштоўнасцямі сацыяльнай дэмакратыі. Але большасць былой камуністычнай эліты разляцелася на ўсе палітычныя бакі"* (Маруш'як, 2006: 256).

Асноўнымі носьбітамі антыкамуністычнага дыскурусу становяцца дзве сацыяльныя групы. Першая з іх – гэта дысідэнты-лібералы, якія апрыёрна адмаўляюць камуністычны рэжым як нелегітымны, злачынны, няздатны да рэфармавання, і высоўваюць патрабаванне калектыўнай віны. Другая сацыяльная група базуецца на традыцыі антыкамуністычнага каталіцкага супраціву, напоўненага этасам змагання супраць гвалтоўнай атэізацыі грамадскасці і прыгнёту царквы, асабліва каталіцкай, свабоды веравызнання. Гэты этас быў умацаваны пакутніцтвам вышэйшых і шараговых прадстаўнікоў каталіцкага кліру, якія за былым рэжымам былі палітычнымі вязнямі ці падпалі пад іншыя формы праследу (Wiess, 2006: 66). Але электаральныя магчымасці абедзвюх груп досыць абмежаваныя. Напрыклад, на прэзідэнцкіх выбарах 2004 года на першых чатырох месцах аказаліся былыя чальцы камуністычнай партыі, якія набралі разам 84,52% галасоў, тады як два кандыдаты, якія сімвалізавалі сабой супраціў камунізму і неааўтарытарнай палітыцы Уладзіміра Мэч'яра, атрымалі разам 6,51% (Маруш'як, 2006: 256–257).

Паводле меркавання Шары Коэн, "ідэалагічныя" эліты дэмакратаў і каталіцкіх нацыяналістаў слабыя, яны ізаляваныя міжсобку і ад грамадства. Для характарыстыкі паноўнага рэя ў славацкай палітыцы амерыканская даследчыца выкарыстоўвае тэрмін "мас-эліты (mass-elites)", для якіх уласцівы кароткачасовы апартунізм, адсутнасць ідэйнай узгодненасці і гіста-

рычнай свядомасці. Адзіным аб'ядпальным фактарам для мас-элітаў становіцца больш-менш падобныя траекторыі сацыялізацыі, з-за якіх вырастае роля персанальных сувязей, тады як адданасць ідэалагічным дактрынам становіцца непатрэбнай і нават шкоднай. Відавочна, што пры такой структуры славацкай палітычнай эліты ідэалагічны антыкамунізм мусіць аўтаматычна маргіналізавацца (Cohen, 1999). Паспрабуем разгледзець храналагічна, як змянялася стаўленне палітычнага істэблішменту Славакіі да камуністычнай спадчыны.

Пры зрынанні камуністычнага рэжыму галоўнай палітычнай сілай у Славакіі стала грамадская арганізацыя "Грамадскасць супраць гвалту", якая была хутчэй рухам супраць камуністычных уладаў, чым аб'яднаннем вакол пазітыўнай праграмы рэформаў.

Прынцыповай фігурай для славацкай палітыкі ў гэты час становіцца Уладзімір Мэч'яр. Паходжанне гэтага палітыка досыць складанае: ён быў чальцом камуністычнай партыі і займаў розныя пасады ў пракамуністычным моладзевым саюзе, але пасля выступу з рэфарматарскімі патрабаваннямі страціў свае пазіцыі, а ў 1970 годзе быў выгнаны з партыі. Доўгі час Мэч'яр працаваў юрыстам на правінцыйнай фабрыцы, пакуль не ўключыўся ў палітыку як прадстаўнік VPN (Fisher, 2006: 31). Ён хутка зрабіў паспяховую кар'еру, хоць быў звязаны з некалькімі скандаламі: найперш, калі адразу пасля "аксамітнай рэвалюцыі" Мэч'яр заняў пасаду міністра ўнутраных справаў, у медыях паведамлялася, што ён выкарыстоўваў службовае становішча для знішчэння дакументаў, якія б маглі дыскрэдытаваць яго самога ці яго палітычных саюзнікаў. Пасля таго, як Мэч'яр стаў прэм'ер-міністрам Славакіі ў чэрвені 1990 года, з'явіліся публікацыі, што ён выкарыстоўвае дакументы з архіваў для запалохвання палітычных супернікаў, а таксама, што ён супрацоўнічаў са службай бяспекі. Вынікам гэтага стала адсоўванне Мэч'яра з пасады прэм'ер-міністра, што, хутчэй, толькі паспрыяла яго папулярнасці і прывяло да распаду "Грамадства супраць гвалту".

Шырокая кааліцыя, выбудаваная як пратэстная арганізацыя, не мела шмат шанцаў на доўгае існаванне пасля зрынання камуністычнай улады, і нічога дзіўнага, што ў 1991 годзе VPN распадаецца. Найбольш уплывовым становіцца Рух за дэмакратычную Славакію (Hnutie za demokratické Slovensko, HZDS), створаны Мэч'ярам і *"апанаваны былымі менэджэрамі і камуністычнымі партакратамі"* (Nedelsky, 2004: 90). Ён узнік як рэакцыя на падтрымку VPN ліберальных рэформаў. Прынцыповай адметнасцю HZDS становіцца гнуткасць і нявызначанасць праграмы, што дазволіла прыцягнуць на свой бок разнастайны спектр выбарцаў (Williams, 2003: 50). Таксама гэта партыя адчула "пульс масаў", высунуўшы наперад нацыянальнае пытанне (Fisher, 2006: 210). Гэта дазволіла Руху выйграць выбары 1992 года, а Мэч'яр зноў заняў пасаду прэм'ер-міністра.

Ім быў абраны курс, акрэслены патрабаваннем далейшай федэралізацыі Чэхаславацкай дзяржавы, што ў значнай ступені было абумоўлена і непрыняццем жорсткага курсу эканамічных рэформаў Вацлава Клаўса.

Няздольнасць двух урадаў дамовіцца пра стварэнне кааліцыі паставіла на парадак дня дэзінтэграцыю Чэхаславакіі і ўтварэнне дзвюх самастойных дзяржаў (Brown, 2008: 1802).

У сітуацыі нарастання канфлікту за паўнамоцтвы паміж Прагай і Браціславай Мэч'яр выбірае папулісцкую (супраць рыначных рэформаў) і нацыяналістычную стратэгію, што ўрэшце вядзе да распаду Чэхаславакіі і стварэння самастойнай Славацкай Рэспублікі 1 студзеня 1993 года. Надалей Мэч'яр выбірае аўтарытарны курс па ўмацаванні асабістай улады, які засноўваўся на прагматычным альянсе паміж посткамуністычнымі і нацыяналістычнымі сіламі (Tudoriu et al., 2009: 4).

Калі згадаць, што сама ідэя люстрацый і дэкамунізацыі ў гэты час ўспрымалася як "чэшская" па паходжанні, а грамадства досыць абыякава ставілася да крытычнай пераацэнкі мінулага, то не мусіць здзіўляць досыць насцярожанае стаўленне ўрада Мэч'яра да пераадолення камуністычнага мінулага. *"Хаця Мэчыярава кіраўніцтва вельмі ахвотна задавальняла просьбы пра вяртанне маёмасці цэрквам, а парламент у 1996 г., ідучы насустрач, перадусім, клерыкальна-нацыяналістычнай плыні ў славацкай палітыцы, да якой былі блізкія многія палітычныя вязні 50-х гадоў, прыняў Закон аб нелігітымнасці камуністычнага рэжыму, амаль нічога болей не рабілася. Памянёныя захады насамрэч былі разлічаныя на тое, каб максімізаваць падтрымку выбарцаў"* (Маруш'як, 2006: 255). Хоць закон 1996 года падтрымалі і ўрад, і апазіцыя, але, як лічыць Марцін Каваніч (Martin Kovanic), *"такая падтрымка можа быць патлумачаная тым, што HZDS не быў зацікаўлены ў карных мерах і закон застаўся толькі на сімвалічным узроўні падчас усёй другой стадыі транзіту"* (Kovanic, 2012: 399).

У значнай ступені аслабленню антыкамуністычнага дыскурсу паспрыяла "этнізацыя" славацкай палітыкі, выпрацоўка акрэсленага камунікацыйнага габітуса, які праводзіць лініі і стварае падзелы паміж групамі людзей ў залежнасці ад нацыянальнасці альбо этнічнасці, і ў міжгрупавых стасунках менавіта фактар этнічнасці становіцца вызначальным для палітычнай мабілізацыі (Chudzikova, 2011: 111).

Але з 1998 года трэба казаць пра наступную фазу посткамуністычнага транзіту Славакіі, калі HZDS, нават набраўшы найвялікшую колькасць дэпутатаў у парламенце, не здолеў стварыць урадавую кааліцыю. У выніку да ўлады прыйшла кааліцыя ідэалагічна разнастайных партый і наступная *"фрагментацыя парламента фактычна прывяла да стварэння палітычных груповак, якія больш прыхільна ставіліся да transitional justice"* (Kovanic, 2012: 393).

У 1999 годзе славацкі міністр юстыцыі і былы рэлігійны дысідэнт Ян Чарнагурскі (Ján Čarnogurský) стварае дэпартамент для дакументацыі злачынстваў, здзейсненых камуністычным рэжымам. Галоўнай мэтай стала забеспячэнне юрыдычных парадаў тым людзям, якія патрабавалі рэстытуцыі альбо рэабілітацыі. Першапачатковыя планы Чарнагурскага былі значна больш шырокімі, меркавалася стварэнне следчай установы павод-

ле чэшскага прататыпа – Офіса дакументацыі і расследавання камуністычных злачынстваў, які дзейнічае пры Міністэрстве ўнутраных спраў Чэхіі. Але такія прапановы былі адрынутыя не толькі апазіцыяй – яны не знайшлі падтрымкі ў партнёраў па кааліцыі, найперш у сацыял-дэмакратаў. Стварэнне невялікага офіса з двух чалавек, адказных за збор дакументаў, ужо не патрабавала дазволу парламента, дый тое стала, па словах былога дысідэнта Міраслава Кусы (Miroslav Kusý), вынікам не *"палітычнай волі, а толькі вынікам упартасці Чарнагурскага"* (Nedelsky, 2004: 78).

Посткамуністычныя левыя сілы досыць нервова адрэагавалі на гэту ініцыятыву. *"Былыя камуністы пагадзіліся з неабходнасцю выкрыцця таямніц аджылага рэжыму толькі ў 2002 г., калі атрымалі гарантыі, што мэтай новазаснаванага Інстытута памяці нацыі (ІПН) не будзе сацыяльны рэванш – і ён не зробіцца часткай паліцэйскага і судовага апарату"* (Маруш'як, 2006: 258).

Фактычна толькі з 2002 года можна казаць пра "парушэнне маўчання" датычна камуністычнага мінулага, і найперш гэта звязана з заснаваннем і дзейнасцю Інстытута памяці нацыі *(*Ústav pamäti národa, UPN*)*. Закон пра заснаванне Інстытута быў прыняты парламентам насуперак прэзідэнцкаму вета, дзякуючы *"вынікам выбараў 1998 года і паслядоўнай фрагментацыі парламента. Больш за тое, блізкасць да наступных выбараў (у верасні 2002 года) стварыла асяроддзе, у якім прыхільнікі прыняцця закону з кіроўнай кааліцыі ўжо не былі абмежаваныя ў сваіх дзеяннях партнёрамі па кааліцыі, асабліва сацыял-дэмакратамі. Пагроза распаду кааліцыі ўжо не была рэлевантнай"* (Kovanic, 2012: 401).

Прататыпам для Інстытута памяці нацыі стаў польскі Інстытут нацыянальнай памяці (што бачна ўжо па адпаведнасці назваў), больш за тое, пры падрыхтоўцы законапраекта Ян Лангаш (Ján Langoš), адзін з ініцыятараў стварэння UPN і дырэктар гэтай арганізацыі ад пачатку паўставання да сваёй трагічнай смерці ў аўтакастрофе ў 2006 годзе, выкарыстоўваў тэкст польскага закона. *"У вялікай ступені можна казаць пра славацкую копію польскай мадэлі"* (Dinuš, 2010: 25).

Важна адзначыць, што, як і ў польскага адпаведніка, у сферу адказнасці UPN патрапляе не толькі перыяд камуністычнага рэжыму, але і час з 1939 па 1945 год, то бок існавання падкантрольнай нацыстам Славацкай Рэспублікі.

Цікава, што ў публічных дыскусіях напярэдадні прыняцця закона ўжываўся таксама і аргумент, што ва ўсіх суседніх краінах ужо прынята адпаведнае заканадаўства і зараз для Славакіі найлепшы момант зрабіць тое ж самае (Nedelsky, 2009: 54).

Як лічыць Томас Снеган (Tomas Sniegon), важным каталізатарам для змены стасункаў да камуністычнага мінулага ў Славакіі стаў пачатак перамоваў пра членства краіны ў Еўрапейскім звязе і АПАД (NATO*)*. *"Асабліва крокі, якія б асуджалі ўціск і стаўленне да габрэйскіх грамадзян падчас Халакосту у Славацкай Рэспубліцы часоў Другой сусветнай вайны, маглі быць зразуметыя як унёсак новых славацкіх палітычных эліт*

*пасля 1998 года ў працэс пашырэння ЕЗ, і як спроба пераканаць Звяз, што новая славацкая дэмакратычная дзяржава адпавядае патрабаванням да поўнага членства ў ЕЗ і гатовая будаваць новую "еўрапейскую памяць". Барацьба за дэмакратыю таксама адпавядала новаму славацкаму нацыянальна-еўрапейскаму гістарычнаму наратыву, які мусіў надаць легітымнасць уваходжанню Славакіі ў ЕЗ"* (Sniegon, 2013: 119).

Нездарма ў рэдактарскай прадмове да першага нумару часопіса "Памяць нацыі", які пачаў выходзіць з 2004 года, Ян Лангаш падкрэсліваў еўрапейскае вымярэнне дзейнасці Інстытута: *"Праўда пра еўрапейскае мінулае – гэта наша агульная спадчына, яна мусіць быць даступнай ўсім нам, і таксама жыхарам Захаду. Таму, разам з нашымі партнёрскімі інстытутамі з Германіі, Польшчы, Чэшскай рэспублікі і Венгрыі, мы даслалі ліст старшыні Еўрапейскай камісіі спадару Рамана Продзі (Romano Prodi) і папрасілі яго перавесці нашу дзейнасць на ўзровень Еўрапейскага звязу"* (Langoš, 2004: 1). Некаторым наступствам гэтай ініцыятывы можна лічыць стварэнне ў 2005 годзе Еўрапейскага сеціва памяці і салідарнасці (European Network Remembrance and Solidarity), запачаткаванага міністрамі культуры Германіі, Венгрыі, Польшчы і Славакіі. Такім чынам, заснаванне UPN было важкім аргументам у справе "еўрапеізацыі" Славакіі і ўваходжання ў еўраструктуры.

Новаўсталяванаму Інстытуту памяці нацыі было нададзена некалькі найважнейшых функцый працы з мінулым:

1) функцыя адкрыцця ісціны, найперш праз публікацыю інфармацыі з архіваў службы бяспекі. Таксама прадугледжваецца, што UPN працуе з індывідуальнымі запытамі грамадзян, якія хочуць даведацца, ці існуе нейкая інфармацыя пра іх у адпаведных архівах. Яшчэ адной часткай актыўнасці стала публікацыя спісаў супрацоўнікаў і агентаў службы бяспекі;

2) функцыя гістарычных даследаванняў, для чаго задзейнічаны шэраг маладых навукоўцаў, якія мусяць стварыць аб'ектыўную карціну мінулага;

3) разгляд запытаў датычна надання статуса чальца антыкамуністычнага супраціву;

4) ініцыяванне крымінальных спраў, пераследу за нацысцкія і камуністычныя злачынствы (Kovanic, 2012: 402–405).

Апошні накірунак стаў найменш выніковым. Агулам за ўвесь посткамуністычны перыяд толькі адзін высокапастаўлены чыноўнік быў асуджаны за злачынствы, здзейсненыя пад эгідай камуністычнага рэжыму, і ніхто не адбываў турэмнага пакарання (Nedelsky, 2009: 61).

Найбольшы публічны рэзананс выклікала публікацыя Інстытутам памяці нацыі спісаў супрацоўнікаў і агентаў службы бяспекі, якая распачалася ў лістападзе 2004 года. Але эфектыўнасць такіх публікацый ацэньваецца Юраем Маруш'якам як вельмі нізкая: *"Як і на пачатку 90-х гг., у сённяшняй Славакіі люстрацыйныя скандальчыкі пахіснулі рэпутацыю тых інстытуцый ды асоб, якія лічыліся маральнымі аўтарытэтамі дэмакратычнага рэжыму і стваралі аснову яго ідэнтычнасці, – царквы, актыўных су-*

*працiўнiкаў камунiстычнага рэжыму, iнтэлектуалаў, унiверсiтэтаў i г. д. Прычым, публiкацыя рэестраў не прынесла асаблiвых адкрыццяў. Большасць iмён аказалася агульнавядомай, бо яшчэ на пачатку 90-х, дзякуючы «ўцечцы iнфармацыi» з федэральнага Мiнiстэрства ўнутраных спраў, былi выдадзены пiрацкiя спiсы тайных супрацоўнiкаў"* (Маруш'як, 2006: 259).

Не зважаючы на тое, што славацкі Інстытут памяці нацыі быў створаны на ўзор польскага адпаведніка, розніца ў палітычным і грамадскім значэнні гэтых інстытуцый сведчыць пра розную ступень праяўленасці антыкамуністычнай палітыкі ў Польшчы і Славакіі. Калі ў Польшчы Інстытут нацыянальнай памяці – "моцная" структура, са значным бюджэтам, агромністым палітычным уплывам і інстытуцыйнымі магчымасцямі, то славацкі Інстытут памяці нацыі не мае належнай інфраструктуры, мае сціплы штат, не ажыццяўляе люстрацый і не выконвае следчых функцый (Bezák, 2011: 435–438). Фактычна, гаворка ідзе пра сімвалічны інстытут, які не мае рэальных рычагоў уздзеяння на грамадска-палітычныя працэсы.

У параўнанні з ідэалагічным антыкамунізмам значна больш масавай падтрымкі атрымлівае папулізм, пра што сведчыць і ўпэўненае вяртанне да ўлады папулісцкай партыі "Smer" ("Напрамак") на чале з Робэртам Фіцам (Robert Fico) па выніках выбараў 2012 года – упершыню ў гісторыі посткамуністычнай Славакіі палітычная партыя здолела перамагчы на выбарах, набраўшы абсалютную большасць галасоў. *"Сам былы камуніст, ён не асуджае камунізм, што фактычна рэабілітуе многіх людзей, якія стыгматызаваны сімвалічнай сістэмай постсацыялістычнага неаліберальнага дыскурсу"* (Burzova, 2012: 888). Фіца належыць славутае выказванне датычна лістапада 1989 года: *"Магчыма, гэта прагучыць жахліва, але я не памятаю, тады ў мяне быў іншы клопат"* (цытуецца паводле Шымэчка, 2010: 105). Марцін Шымэчка такім чынам расшыфроўвае яго рытарычную стратэгію: *"Фіца – папуліст, і ён ведае, што людзі сумуюць па рэальным сацыялізме. Але ён ведае і тое, што яны не хочуць сабе ў гэтым прызнацца. Ён паказаў ім дарогу, і замест таго, каб сказаць тое, што гавораць усе астатнія, – забудзьцеся пра рэальны сацыялізм, – ён сказаў: забудзьцеся пра лістапад"* (Шымэчка, 2010: 105).

## Заключэнне

Праведзены аналіз сведчыць, што высновы Тробста пра грамадскі кансенсус датычна ацэнкі камуністычнага рэжыму ў Славакіі досыць павярхоўныя. Гаворка ідзе хутчэй пра частку палітычнай эліты, якая абапіраецца на спрыяльную міжнародную кан'юнктуру, дзе асуджэнне камунізму лічыцца правілам добрага тону. Больш рэлевантнай і ўзважанай падаецца ацэнка Оўэна Джонасана, які лічыць, што камуністычны перыяд для Славакіі яшчэ застаецца "загадкай", у той час як сярод гісторыкаў, так і ў грамадстве гэты час успамінаецца па-рознаму і падтрымліваюцца розныя версіі гістарычнай праўды (Johnson, 2008: 139–140).

З іншага боку, у Славакіі на ўзроўні гістарычнай палітыкі рэалізавана досыць шмат інстытуцыйных ініцыятываў, якія маглі б сведчыць пра мэтанакіраванае развітанне з камунізмам: закон пра люстрацыі 1991 года (хоць і прыняты яшчэ ў межах Чэхаславакіі), закон пра амаральнасць і незаконнасць камуністычнай сістэмы 1996 года, стварэнне Інстытута памяці нацыі ў 2002 годзе. Але ў дадзеным выпадку гэтыя мерапрыемствы былі ў значнай ступені выкліканыя не кансэнсусам палітычнай эліты ўнутры краіны, а знешнімі ўплывамі, што асабліва выявілася ў "чэхаславацкім" законе пра люстрацыі, які быў праігнараваны ў Славакіі. Важна адзначыць, што Славакія знаходзіцца ў цэнтры рэгіёна, дзе пануючым у публічнай сферы ў 1990–2000-я гады стаў ідэалагічны антыкамунізм. Гэта паспрыяла паспяховаму трансферту ідэй – у форме запазычання тэксту закона пра незаконнасць камуністычнага рэжыму ў чэхаў альбо стварэння Інстытута памяці нацыі паводле польскага ўзору. Але адсутнасць грамадскай зацікаўленасці ў "развітанні з мінулым", разрозненасць палітычных элітаў спрыялі таму, што ідэалагічны антыкамунізм у Славакіі застаецца шмат у чым дэкаратыўным, падобным на экспартна-арыентаваны прадукт, з вельмі абмежаваным колам зацікаўленых актараў.

**Літаратура**


1. Бутурава, Зора (2006). "Посткамуністычная ментальнасць супраць выклікаў мадэрнізацыі", у Марцін Бутара і інш. (рэд.), *Славацкая надзея. Досвед дэмакратычных трансфармацый.* Браціслава – Мінск.
2. Крывы, Уладзімір (2006). "Падзелы і расколы ў славацкім грамадстве", у Марцін Бутара і інш. (рэд.), *Славацкая надзея. Досвед дэмакратычных трансфармацый.* Браціслава – Мінск.
3. Маруш'як Юрай (2006). "У паўценю дзвюх таталітарных сістэм (замірэнне славакаў з мінуўшчынай)", у Марцін Бутара і інш. (рэд.), *Славацкая надзея. Досвед дэмакратычных трансфармацый.* Браціслава – Мінск.
4. Маруш'як, Юрай (2010). "Дылемы посттрансфармацыйнай ідэнтычнасьці славацкай палітыкі", *ARCHE,* №9: 443–459.
5. Пржыбань, Іржы (2012). *Дысідэнты права.* Мінск: Экономпресс.
6. Трёбст, Штефан (2004). "«Какой такой ковёр?» Культура памяти в посткоммунистических обществах Восточной Европы. Попытка общего описания и категоризации", *Ab Imperio,* №4: 41–78.
7. Хантингтон, Сэмюэл (2003). *Третья волна. Демократизация в конце XX века.* Москва: РОССПЭН.
8. Шымэчка, Марцін (2010). "Навука рэальнага сацыялізму", *ARCHE,* №9: 95–105.
9. Bezák, Tomáš (2011). "Posttranzičná spravodlivosť v regióne stredovýchodnej Európy. Analýza lustrácií a ústavov pamäti národa", *Sociológia,* 43, č. 4: 420–446.
10. Brown, Scott (2008). "Prelude to Divorce? The Prague Spring as Dress Rehearsal for Czechoslovakia 'Velvet Divorce'", *Europe-Asia Studies,* Vol. 60, No. 10: 1783–1804.
11. Burzova, Petra (2012), "Towards the New Past: Some Reflections on Nationalism in Post-Socialist Slovakia", *Nationalities Papers,* Vol. 40, No. 6: 879–894.

12. Cashman, Laura (2008). "Remembering 1948 and 1968: Reflections on Two Pivotal Years in Czech and Slovak History", *Europe-Asia Studies,* Vol. 60, No. 10, 1645–1658.
13. Chudzikova, Alena (2011). "National Identity in the Political Discourse in Slovakia", *Sociologia românească,* vol. IX, Nr. 1: 110–127.
14. Cohen, Shari J. (2009). *Politics without a Past. The Absence of History in Postcommunist Nationalism.* Durham and London: Duke University Press.
15. Deegan-Krause, Kevin and Haughton, Tim (2009). "Towards a More Useful Conceptualization of Populism: Types and Degrees of Populist Appeals in the Case of Slovakia", *Politics & Policy,* Vol. 37, No. 4: 821–841.
16. Dinuš, Peter (2010). *Vyrovnávanie sa s minulosťou?* Bratislava: VEDA.
17. Fisher, Sharon (2006). *Political Change in Post-Communist Slovakia and Croatia: From Nationalist to Europeanist.* New York: Palgrave Macmillan.
18. Gonzalez-Enriquez, Carmen (2001). "De-Communization and Political Justice in Central and Eastern Europe", in Alexandra Barahona de Brito et al. (eds.), *Politics of Memory. Transitional Justice in Democratizing Societies.* New York: Oxford University Press.
19. Harris, Erika (2002). *Nationalism and Democratisation: Politics of Slovakia and Slovenia.* Aldershot: Ashgate.
20. Henderson, Karin (2003). *Slovakia. Escape from Invisibility.* London and New York: Routledge.
21. Johnson, Owen (2008). "Begetting & Remembering: Creating a Slovak Collective Memory in the Post-Communist World", in Michal Kopeček (ed.), *Past in the Making. Historical Revisionism in Central Europe after 1989.* Budapest – New York: CEU Press.
22. Kitschelt, Herbert et al. (1999). *Post-Communist Party System: Competition, Representation, and Inter-Party Cooperation.* Cambridge: Cambridge University Press.
23. Kovanic, Martin (2012). "Transitional Justice Dynamics in Slovakia: from Silence to the Nation's Memory Institute", *CEU Political Science Journal,* 7(4): 385–410.
24. Kopeček, Michal (2008). "In Search of "National Memory". The Politics of History, Nostalgia and the Historiography of Communism in the Czech Republic and East Central Europe", in Michal Kopeček (ed.), *Past in the Making. Historical Revisionism in Central Europe after 1989.* Budapest – New York: CEU Press.
25. Kováč**,** Dušan (2010). *Dějiny Slovenska.* Bratislava: Lidove Noviny.
26. Krapfl, James (2006). "Revolution and Revolt against Revolution: Czechoslovakia, 1989", in Kevin McDermott and Matthew Stibbe (eds.), *Revolution and Resistance in Eastern Europe. Challenges to Communist Rule.* Oxford – New York: Berg.
27. Krastev, Ivan (2006). „Between Elite and People: Europe's Black Hole", Open Democracy Institute, URL (доступ 31.07.2014): https://www.opendemocracy.net/globalization-institutions_government/europe_blackhole_3796.jsp
28. Langoš, Jan (2004). "Slovo na úvod", *Pamäť národa*: 1–2.
29. Linz, Juan and Stepan, Alfred (1996). *Problems of Democratic Transition and Consolidation: Southern Europe, South America and Post-communist Europe.* Baltimore: John Hopkins University Press.
30. Londak, Miroslav and Londakova, Elena (2011). "Slovakia under Communism, 1948–1989: controversial developments in the economy, society and culture", in Mikulas Tiech et al. (eds.), *Slovakia in History.* Cambridge – New York: Cambridge University Press.
31. Mayer, Françoise (2009). *Češi a jejich komunismus. Paměť a politická identita.* Praha: Argo.
32. Musil, Jiri, ed. (1995). *The End of Czechoslovakia.* Budapest: CEU Press.
33. Nedelsky, Nadya (2004). "Divergent Responses to a Common Past: Transitional Justice in the Czech Republic and Slovakia", *Theory and Society,* 33: 65–115.

34. Nedelsky, Nadya (2009). "Czechoslovakia and the Czech and Slovak Republics", in Lavinia Stan (ed.), *Transitional Justice in Eastern Europe and the Former Soviet Union: Reckoning with the Communist Past.* New York: Routledge.
35. Peknik, Miroslav, ed. (2006). *Verejná mienka a politika. Historické vedomie slovenskej spoločnosti.* Bratislava: VEDA.
36. Rupnik, Jacques (2002). "The Politics of Coming to Terms with the Communist Past. The Czech Case in Central European Perspective". *Tr@nsit Online,* URL (доступ 31.07.2014): http://www.iwm.at/read-listen-watch/transit-online/the-politics-of-coming-to-terms-with-the-communist-past-the-czech-case-in-central-european-perspective/
37. Sniegon, Tomas (2013). "Implementing Post-Communist National Memory in the Czech Republic and Slovakia", *European Studies,* 30: 97–124.
38. Suk, Jiří (2001). "Prezident Václav Havel a břemeno (komunistické) minulosti. Lustrace jako politický a morální problém 1989–1992", in Adela Gjuricova et al., *Rozděleni minulostí. Vytváření politických identit v České republice po roce 1989.* Praha: Knihovna Vaclava Havela.
39. Suk, Jiří (2010), "The Czech's Communist Past as a Moral and Political Problem", *The Prague Journal of Central European Affairs:* 31–42.
40. Tudoriou, Theodor et al. (2009). "Ultra-Nationalism and Geopolitical Exceptionism in Meciar's Slovakia", *Problems of Post-Communism,* vol. 56, no. 4: 3–14.
41. Weiss, Peter (2006). "K problematike postkomunistickej identity", in Juraj Marušiak, Michala Ferencová (eds.), *Teoretické prístupy k identitám a ich praktické aplikácie.* Bratislava: Ustav politickych vied.
42. Williams, Kieran (2003). "The Czech Republic and Slovakia", in Stephen White et al. (eds), Developments in *Central and East European Politics 3.* New York: Palgrave Macmillan.
43. Willliams, Kieran (2006). "The Prague Spring: From Elite Liberalisation to Mass Movement", in Kevin McDermott and Matthew Stibbe (eds.), *Revolution and Resistance in Eastern Europe.* Challenges to Communist Rule. Oxford – New York: Berg.